Гродна
№20 (502),
4 лістапада 2018

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# АДНОСІНЫ З ПАМЕРЛЫМІ. УДЗЯЧНАСЦЬ ЧЫСТЦОВЫХ ДУШ

ПЫТАННЕ ЎДЗЯЧНАСЦІ ЧЫСТЦОВЫХ ДУШ З’ЯЎЛЯЕЦЦА ДЛЯ НАС ЧАРГОВАЙ НАГОДАЙ, КАБ ПАКОРНА СТАЦЬ ПЕРАД АБЛІЧЧАМ ТАЯМНІЦЫ ВЕРЫ АБ ВЕЧНЫМ ЖЫЦЦІ І ЕДНАСЦІ СВЯТЫХ. СВЯТЫХ? АЛЕ Ж ЧЫСТЦОВЫЯ ДУШЫ НЕ Ў НЕБЕ? ТАК, АДНАК ЯНЫ ЎЖО ЗБАЎЛЕНЫЯ, ХОЦЬ ЯШЧЭ НЕ ПОЎНАСЦЮ АЧЫШЧАНЫЯ.

● працяг на с. 4–5

“Малітва за памерлых – найлепшая духоўная дапамога, якую можам даць іх душам”. Папа Францішак




### XXXI ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Мк 12, 28b–34**

Адзін кніжнік падышоў да Езуса і спытаўся ў Яго: “Якая запаведзь першая з усіх?”. Езус адказаў: “Першая такая: «Слухай, Ізраэль, Пан Бог наш – Пан адзіны; любі Пана Бога твайго ўсім сэрцам тваім, і ўсёю душою тваёю, і ўсім розумам тваім, і ўсёй моцаю тваёй». Другая: «Любі бліжняга твайго, як самога сябе». Няма іншай запаведзі, большай за гэтыя”. І сказаў Яму кніжнік: “Добра, Настаўнік, Ты праўду сказаў, што ёсць адзін і няма іншага, апрача Яго. Любіць Яго ўсім сэрцам і ўсім розумам, і ўсёю душою, і ўсёю моцаю; і любіць бліжняга, як самога сябе – гэта больш за ўсе ахвяры і ўсеспаленні”. Езус, убачыўшы, што той разумна адказвае, сказаў яму: “Недалёка ты ад Валадарства Божага”. І ніхто ўжо больш не адважваўся пытацца ў Яго.

### ЛЮБІЦЬ БОГА І БЛІЖНІХ

У адказ кніжніку Езус Хрыстус гаворыць больш, чым патрабавала зададзенае пытанне. Звяртаючыся да Збаўцы, мужчына прагнуў даведацца, якая запаведзь найважнейшая. Месія свядома назваў не адну, а дзве: любі Бога і бліжняга. Хацеў праз гэта паказаць сувязь абедзвюх запаведзяў паміж сабой – такую цесную, што нельга іх аддзяляць адна ад адной.

Не атрымаецца любіць Бога, не любячы бліжніх. “Калі хто кажа: «Я люблю Бога», і брата свайго ненавідзіць, той хлус, бо хто не любіць брата свайго, якога бачыць, як можа любіць Бога, якога не бачыць?” (1 Ян 4, 20). Немагчыма таксама сапраўдная любоў да іншых, калі не імкнёмся да абсалютнай любові да Усемагутнага. Непадзельнасць дадзенай праўды Езус падкрэсліў, гаворачы: “Што вы зрабілі аднаму з гэтых братоў Маіх меншых, вы Мне зрабілі” (Мц 25, 40).

**Як я выражаю сваю любоў да Бога, і ў чым яна праяўляецца?**

**Ці здольны я любіць кожнага чалавека, якога Божы Провід ставіць на маім шляху?**

### XXXII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Мк 12, 38–44**

Езус сказаў народу, навучаючы: “Асцерагайцеся кніжнікаў, якія любяць хадзіць у доўгіх шатах, і прывітанні на рынках, і першыя лаўкі ў сінагогах, і першыя месцы на гасцінах. Тыя, хто аб’ядае дамы ўдоў і напаказ доўга моліцца, атрымаюць найцяжэйшы прысуд”.

І, сеўшы насупраць скарбонкі, Езус назіраў, як людзі кідалі грошы ў скарбонку. Многія багатыя кідалі памногу. І прыйшла адна бедная ўдава, і ўкінула дзве лепты, што складае чвэрць аса. Паклікаўшы вучняў сваіх, Езус сказаў ім: “Сапраўды кажу вам, што гэтая бедная ўдава ўкінула больш за ўсіх, хто кідаў у скарбонку. Бо ўсе кідалі, маючы лішак, а яна, будучы ў нястачы сваёй, укінула ўсё, што мела, увесь пажытак свой”.

### НЕ КОЛЬКАСЦЬ, А ЯКАСЦЬ

Праз пахвалу ахвяры беднай удавы Хрыстос падкрэслівае, што значэнне мае не колькасць, а якасць дару. Іншымі словамі, важная не колькасць прамоўленых малітваў, а іх глыбіня і шчырасць; не колькасць гадзін, праведзеных у касцёле, а добрыя ўчынкі па-за сценамі святыні; не частата споведзі, а духоўны плён і сапраўднае навяртанне пасля яе. Езус робіць акцэнт на шчырасці, глыбіні і праведнасці, паколькі гэтыя цноты з’яўляюцца сэрцам сапраўднай рэлігіі. Паступаючы па-іншаму, мы, падобна фарысеям, сціскаем яе да знешніх знакаў і жэстаў, якія нічога не значаць.

Хрыстос аддаў Айцу ўсё, што меў. Мы пакліканы да таго ж: павінны аддаць Богу сваё сэрца і даручыць Яму ўсё сваё жыццё; павінны нястомна дзяліцца тым, што маем, з іншым чалавекам, паколькі пастава эгаіста не можа прынесці шчасця. Фрэнсіс Бальфур калісьці трапна заўважыў: “Найлепшым дарам для нашага ворага з’яўляецца прабачэнне; для сябра – вернасць; для дзіцяці – добры прыклад; для бацькі – аказаная яму пашана; для маці – сардэчнасць; для суседа – дапаможная далонь”.

**Ці не ацэньваю сваю рэлігійнасць колькасцю прынятых св. Камуній, прамоўленых малітваў, ахвяраванняў на дабрачынныя мэты?**

**Ці ўмею дзяліцца тым, што маю, з іншымі людзьмі?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Вечнасць

*Кожны дзень шмат людзей прачынаюцца, не здагадваючыся, што настала апошняя раніца ў іх жыцці. Смерць не аднойчы прыходзіць раптоўна, у самы нечаканы момант, магчыма, пры самых неадпаведных умовах, здавалася б, занадта рана...*

Хтосьці вядзе аўтамабіль, каб вырашыць тэрміновыя справы, і трапляе ў аварыю... Хтосьці захутка едзе на матацыкле і не спраўляецца з кіраваннем на павароце... Хтосьці стаіць на пероне занадта блізка да рэльсаў і аказваецца ўцягнуты пад цягнік... Хтосьці ідзе паплаваць і трапляе ў вадаварот... Хтосьці выходзіць прагуляцца... Хтосьці пераходзіць вуліцу... Хтосьці...

Можна бясконца так пералічваць. Кожную хвіліну нехта пераступае парог смерці. Мы не ў стане нават уявіць усяго мноства памерлых. Чытаем пра людзей, якія адышлі, у прэсе ці інтэрнэце, чуем пра іх у навінах ці ад знаёмых у школе, у навучальнай установе, на працы. Часам нават цяжка паверыць, што так выглядае пераход на другі бок жыцця, што гэта адбываецца не ў старасці, не ў бальніцы, не дома, а менавіта такім чынам: без падрыхтоўкі, нібы на хаду, у дарозе...

Невядома, ці паспелі гэтыя людзі хаця б думку ўзнесці да Бога, ці хапіла ім часу на раскаянне і жаль за грахі... Менавіта па гэтай прычыне іх душы патрабуюць асаблівага малітоўнага клопату ад нас, жывых. Напэўна, не прыйдуць самі прасіць дапамогі. Гэта мы павінны прыслухацца да іх нямой просьбы аб міласэрнасці. Такой жа нямой, як самі акалічнасці іх адыходу.

Не трэба сумнявацца, што памерлым неабходна наша нястомная малітва! Варта знайсці час, каб сагнуць калені і ў пакоры падчас вячэрняй малітвы прасіць Бога Айца: “Акажы ім, Пане, сваю міласэрнасць і дай ім сваё збаўленне. Не зважай на грахі іхнія, Пане, але на муку, смерць і ўваскрасенне Твайго адзінага Сына. Глянь на веру ўсяго Касцёла, на заслугі Тваіх святых у Небе. Дай ім вечны адпачынак. Няхай святло вечнае ім заяснее, і няхай у яго бляску ўбачаць Тваё найсвяцейшае Аблічча”.

Лістапад – добры час, каб у сваёй малітоўнай памяці ўзгадаць усіх спачыўшых блізкіх: тых, каго мы любілі бязмежна, і тых, каго, магчыма, усё ж замала. Гэта асаблівая нагода, каб зноў паразважаць над сваім жыццём, падумаць аб сваім адыходзе, паколькі не ведаем ні дня, ні гадзіны (параўн.: Мц 25, 13). Ён можа быць зусім нечаканым і абсалютна незапланаваным. Трэба таксама ўсвядоміць, што праз вароты смерці мы пяройдзем з усёй гісторыяй пражытых на зямлі хвілін, з багажом вопыту, з наступствамі адносін з Богам і людзьмі. На тым баку ў нас ужо не будзе магчымасці ўзрастаць у любові да Усемагутнага і бліжніх. Вечнасць – гэта жніво, збіранне плёну зямнога жыцця. Таму варта задумацца, з чым бы мы сталі перад Панам, калі б Ён сёння, цяпер паклікаў нас да сябе.

**Дарагія Чытачы!**

Давайце з даверлівай любоўю наблізімся да Найсвяцейшага Божага Сэрца праз сакрамант паяднання і злучэнне з Ім у св. Камуніі. Папросім, каб міласэрны Айцец прыняў нашу любоў; каб памятаў пра Кроў Сына, пралітую за кожнага чалавека без выключэння; каб у ёй абмыў сэрцы церпячых у чыстцы і правёў іх праз брамы Неба.

Не забываем: час уцякае, вечнасць чакае!




# СВ. ЛЕЎ ВЯЛІКІ: ЗАСТУПНІК МУЗЫКАНТАЎ



*У іканаграфіі св. Леў Вялікі прадстаўлены ў папскім уборы і ў тыяры, часам у літургічных шатах усходняга абраду ці як Папа, які піша. Яго атрыбутамі з’яўляюцца кніга, келіх і працэсія з паўмесяцам, якой заступае дарогу.*

**З’яўляецца першым сярод наступнікаў св. Пятра, які – па прыкладзе свецкіх імператараў і заваёўнікаў – атрымаў прозвішча “Вялікі”. Быў не толькі выдатным тэолагам, айцом і доктарам Касцёла, але і цудоўным дыпламатам. Дзякуючы сваім здольнасцям і заслугам па праву называўся вялікім абаронцам хрысціянскай цывілізацыі.**

#### ЗНАЧНЫЯ ЗАСЛУГІ Ў ГАЛІНЕ ЛІТУРГІІ

Нарадзіўся ў канцы IV стагоддзя ў Таскане ці, дакладна невядома, у Рыме (Італія). Быў здольным і руплівым вучнем, аб чым сведчаць глыбокія веды і культура слова, што вынікаюць з яго пазнейшых казанняў.

Прыняўшы духоўны сан, Леў хутка зарэкамендаваў сябе як выбітная асоба, бязмежна адданая служэнню Касцёлу. У 418 годзе праз яго папа Зосім пераслаў біскупу Аўрэлію з Карфагена лісты адносна спрэчак аб ілжэвучэннях Пелагія. Праз 10 гадоў па загадзе чарговага Папы, Цэлестына I, падтрымліваў кантакт са св. Янам Касьянам з Марсэля, знаўцам усходняга Касцёла, на тэму ерасей, якія абвяшчаў Несторый. Гэтыя і іншыя факты, занатаваныя ў старых гістарычных крыніцах, сведчаць пра высокае палажэнне Льва ў Рымскім Касцёле.

Пасля смерці папы Сікста III быў выбраны Біскупам Рыма. Гэта адбылося падчас яго адсутнасці ў Вечным Горадзе, калі па просьбе Святога Айца і імператарскага двара знаходзіўся ў Галіі з місіяй прымірэння кіраўніка імператарскай арміі. Біскупскае пасвячэнне прыняў 29 верасня 440 года.

Пантыфікат Льва I працягваўся больш за 20 гадоў. Гэта быў складаны час у гісторыі Касцёла, паколькі трэба было змагацца з разнастайнымі ерасямі, якія распаўсюджвалі некаторыя тэолагі і “прарокі”-самазванцы.

Вялікае значэнне маюць заслугі папы Льва I у галіне літургіі. Ён з’яўляўся аўтарам многіх малітваў, што пазней былі ўключаны ў літургічныя кнігі Касцёла. Значная частка астатніх малітваў паўстала пад выразным уплывам яго прамоў, паколькі ў сілу сваёй пасады Леў Вялікі прамаўляў шмат пропаведзей. Да сёння захавалася 97. Для іх характэрны сіла слова і – галоўнае – тэалагічная глыбіня.

Памёр, хутчэй за ўсё, 10 лістапада 461 года. Яго цела пахавана на тэрыторыі базілікі св. Пятра ў Рыме.

#### ЧАМУ МЫ МОЖАМ НАВУЧЫЦЦА Ў СВ. ЛЬВА ВЯЛІКАГА?

Святы быў прапаведнікам супакою і любові. Сваім жыццём ён паказвае, што ў веры мы можам вучыцца любові. З’яўляецца таксама прыкладам веры ў Хрыста, сапраўднага Бога і Чалавека, і штодзённай яе рэалізацыі праз дзейнасць на карысць супакою ды праз любоў да бліжняга.

#### ЦІКАВА!

Абраны Папам, будучы дыяканам. Выконваў гэтыя службовыя абавязкі ў Рыме з вялікай адданасцю. Перад тым, як заняць Пасад св. Пятра, павінен быў спачатку прыняць біскупскую сакру.

#### З ВУСНАЎ СВЯТОГА

“Ніадна набожная справа не прыносіць Пану такога задавальнення, як тое, калі прыходзім на дапамогу Яго ўбогім”.

#### ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН

Касцёл узгадвае св. Льва Вялікага 10 лістапада.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# “Горад памерлых” стане віртуальным






***Старыя гродзенскія могілкі, якія па сваёй значнасці і каштоўнасці стаяць побач з некропалямі Росы ў Вільнюсе (Літва), Лычакоўскімі ў Львове (Украіна), Павонзкаўскімі ў Варшаве (Польшча), у хуткім часе будуць цалкам адлічбаваны. Бясплатную базу даных з фотаздымкамі надмагілляў, іх каардынатамі і інфармацыяй аб памерлых, даступную ў рэжыме онлайн, стварае Андрэй Бурдзянкоў.***



## ДАРАГОЕ ХОБІ

Андрэй Бурдзянкоў – гід-перакладчык з Мінска. Ён першым у Беларусі пачаў ствараць каталог старадаўніх пахаванняў з іх дакладнымі каардынатамі. За некалькі гадоў працы энтузіясту ўдалося сабраць інфармацыю па 25-ці беларускіх некропалях. І ўсё дзеля таго, каб людзям было прасцей шукаць памерлых сваякоў і будаваць сваю генеалогію.

***“Усё пачалося ў 2011 годзе ў Налібоках, калі з адным турыстам шукаў магілу яго продкаў. Нам прыйшлося доўга блукаць па могілках. І тады падумалася, што нядрэнна было б мець інфармацыю пра пахаванні онлайн,*** – распавядае Андрэй. – ***У 2014 годзе я пачаў працаваць над уласным праектам. Спачатку гэта быў бясплатны дадатак для смартфона. Але ён меў пэўныя хібы, таму прыйшлося звярнуцца да праграмістаў з просьбай распрацаваць адмысловую праграму. У выніку быў створаны дадатак GeoTag. Ён дазваляе фатаграфаваць аб’екты з GPS-прывязкай і дадаваць пад іх апісанні”.***

Мінчук зазначае, што на стварэнне GeoTag прыйшлося выдаткаваць 14 тысяч даляраў. Яшчэ 2 тысячы трэба было ўкласці ў распрацоўку сайта. Каб знайсці такую сур’ёзную суму, хлопец прадаў сваю сталічную аднапакаёўку.

***“Ужо доўгі час сам сабе не магу патлумачыць, навошта мне патрэбна ахвяраваць свой вольны час, свае сродкі на гэтую справу,*** – разважае Андрэй. – ***Для сярэднестатыстычнага беларускага мужчыны маё хобі, мякка кажучы, нетыповае. Але кожнаму сваё: нехта ловіць сама на смажанага вераб’я, нехта круціць гайкі ў гаражы, а я фатаграфую могілкі. Гэта больш філасофскі занятак. Таксама ён пэўным чынам звязаны з маёй прафесіяй. Да таго ж, я ўпэўнены, што справа прыносіць карысць іншым людзям”.***

## НЕ ХАПАЕ РУК

Адлічбоўкай старых гродзенскіх могілак Андрэй Бурдзянкоў пачаў займацца ўлетку. Шпацыраваць па старадаўнім некропалі і фатаграфаваць надмагіллі не атрымалася. Спачатку трэба было браць у рукі электракасу, секатар, электранажніцы і змагацца з хмызняком, высокай травой, быльнягом і імхом, а ўжо пасля расчахляць фотаапарат.

Хлопец прызнаецца: пачынаючы працу, разлічваў на тое, што шырокія масы гродзенцаў адгукнуцца на яго ініцыятыву і дапамогуць. Але, на вялікі жаль, ахвотных было няшмат, таму ў асноўным прыходзілася працаваць самому. ***“Адзін з мясцовых гісторыкаў, які дапамагаў мне, распавёў, што неаднаразова выкладваў на сваіх старонках у сацыяльных сетках аб’явы аб тым, што патрэбны валанцёры, якія дапамогуць прыбраць могілкі. Але людзі толькі ставілі лайкі, замест таго, каб прыйсці і рэальна папрацаваць,*** – гаворыць Андрэй. – ***Агулам мне ўдалося расчысціць і адлічбаваць 600 надмагілляў, якія знаходзяцца злева ад капліцы”.***

Калі хлопец вычышчаў на могілках зараснікі, часта бачыў турыстаў-замежнікаў, асабліва палякаў, якія прыходзілі сюды, каб пазнаёміцца з гісторыяй некропаля ці знайсці месца апошняга прытулку сваіх родных. Ён распавядаў ім пра сваю ініцыятыву. Знаходзіліся тыя, хто дапамагаў рублём. ***“Вельмі ўдзячны гэтым людзям,*** – гаворыць Андрэй. – ***Зараз працы часова прыпынены з-за фінансавых цяжкасцей. Але я разлічваю на тое, што ў маі 2019 года ізноў актыўна пачну наводзіць парадак на могілках і цягам 2-ух месяцаў скончу іх адлічбоўку”.***

Хлопец падкрэслівае, што і надалей будзе выкладваць інфармацыю аб графіку ўборкі ў адкрытай групе ў сацыяльных сетках і спадзяецца, што ўвесну жадаючых далучыцца да добрай справы стане больш.

## ДЗЕ ШУКАЦЬ ВІРТУАЛЬНЫЯ МАПЫ?

Інфармацыя і фотаздымкі больш чым 6-ці тысяч магіл, якія знаходзяцца на тэрыторыі 25-ці беларускіх некропаляў, прадстаўлены на сайце graves.by. Гэтая інтэрнэт-старонка мае англамоўную і беларускамоўную версіі. Тут можна знайсці каталог гістарычных могілак Беларусі, які рэгулярна папаўняецца. Мэта дадзенага рэсурса – захаваць чалавечую памяць нацыі, дапамагчы людзям, якія займаюцца генеалогіяй, і адукаваць маладое пакаленне.

Андрэй Бурдзянкоў падкрэслівае, што ўся сабраная ім інфармацыя знаходзіцца ў адкрытым і бясплатным доступе, ёй можа карыстацца кожны ахвотны. Асабліва яна прыдатна людзям, якія зараз жывуць за мяжой і цікавяцца сваімі продкамі.

***“Каб патрапіць на старонку з магіламі вашых продкаў, трэба ўвайсці на сайт і выбраць спасылку «Знайсці пахаванне». Таксама можна стварыць старонку з профілем свайго продка і адзначыць яго пінам на мапе, каб іншыя людзі змаглі знайсці яго ці падзяліцца з вамі дадзенымі пра гэтага чалавека,*** – тлумачыць Андрэй. – ***Каб сфатаграфаваць надмагілле продкаў і дадаць да базы, карыстайцеся прыстасаваннем GeoTag і абавязкова дадавайце рад, секцыю ці ўсе могілкі разам, бо адзінае надмагілле карысці каталогу не дае. Калі ж вырашыце наведаць пэўныя могілкі, то скапіруйце каардынаты магілы ў Google Navigator, і яны прывядуць у 5-метровы радыус пахавання. Гэты прынцып ужо праверany ў дзеянні на пінскіх могілках. Жанчына з Канады, якая абсалютна не валодала нашай мовай, без старонняй дапамогі выключна па каардынатах з базы даных з планшэтам у руках за 5 хвілін знайшла месца спачыну сваякоў”.***

Таксама энтузіяст падкрэслівае, што віртуальная мапа дазваляе не толькі азнаёміцца з інфармацыяй пра памерлых, але і ўбачыць фотаздымкі надмагілляў. ***“У гэтых помніках і крыжах адлюстраваны пахавальныя традыцыі мінулага, многія з іх маюць гістарычную і мастацкую каштоўнасць. Спадзяюся, мой праект заахвоціць людзей цікавіцца ўласнай гісторыяй, дбаць пра памяць продкаў, наведваць старадаўнія некропалі”,*** – падсумоўвае Андрэй Бурдзянкоў.

*Кінга Красіцкая*

---

# СЛОВА для жыцця

### *Папа Францішак*



*Чалавек мае патрэбу ў безумоўнай любові. А хто не сустракае такога стаўлення, носіць у сабе пэўную нерэалізаванасць, часта не ведаючы пра гэта. Чалавечае сэрца імкнецца запоўніць гэтую пустату сурагатамі, пагаджаючыся на кампрамісы і пасрэднасць, якія маюць толькі цьмяны водар любові. [...] Рызыкоўна называць “любоўю” часовыя і нясталыя адносіны, падманваючы сябе, што святло жыцця знойдзена ў тым, што – у лепшым выпадку – з’яўляецца толькі яго водбліскам.*
*Каб дасягнуць цудоўнага жыцця ў любові, не дастаткова чалавечай прыроды. Трэба, каб вернасць Бога ўвайшла ў наша жыццё. VI запаведзь заклікае скіраваць позірк на Хрыста, які сваёй вернасцю можа пазбавіць сэрца, схільнага да чужалоства, і падарыць сэрца вернае. У Ім, і толькі ў Ім, ёсць любоў без агаворак і ваганняў, ёсць поўны дар без умоў і імкненне прымаць аж да канца.*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 24.10.2018*

---

### *Біскупы Сінода на тэму “Моладзь, вера і распазнанне паклікання”*




*Да вас, моладзь усяго свету, мы, Сінадальныя Айцы, звяртаемся са словам надзеі, даверу, суцяшэння. [...] Нам вядомыя вашы ўнутраныя пошукі, радасці і надзеі, болі і трывогі, з якіх складаецца ваша занепакоенасць. Нам хочацца, каб цяпер вы паслухалі слова ад нас: прагнем быць супрацоўнікамі вашай радасці, каб вашы чаканні ператварыліся ў ідэалы. Упэўнены ў тым, што вы са сваёю жыццярадаснасцю гатовы прыкласці намаганні, каб вашы мары здзейсніліся ў асабістым жыцці і ў гісторыі чалавецтва.*

*Няхай нашы слабасці вас не знеахвочваюць, а недасканаласці і грахі няхай не стануць перашкодай для даверу. Касцёл – ваша Маці, ён не пакідае, а гатовы суправаджаць вас на новых шляхах, на цудоўных сцежках, дзе подых Духа вее мацней, разганяючы хмары абыякавасці, павярхоўнасці, расчаравання.*

*У той час, калі свет, які Бог так палюбіў, што аддаў свайго Сына Езуса, схіляецца да рэчаў, да імгненнага поспеху, да задавальнення і падаўляе слабейшых, вы дапамажыце яму выпрастацца і скіраваць позірк да любові, да прыгажосці, да праўды, да справядлівасці... Вы – гэта сённяшні дзень; будзьце ж больш светлай будучыняй.*

*Фрагмент Ліста Айцоў Сінода да моладзі, 28.10.2018*



◆ *Дзяржаўны сакратар Апостальскай Сталіцы кард. П'етра Паралін паведаміў, што папа Францішак выказаў сваю гатоўнасць паехаць у Пхеньян (Карэйская Народна-Дэмакратычныя Рэспубліка). Аднак такое падарожжа патрабуе сур'ёзнай падрыхтоўкі. Перададзенае вусна праз Прэзідэнта Паўднёвай Карэі запрашэнне – гэта толькі першы крок. Кард. Паралін адзначыў, што візіт Святога Айца быў бы істотнай падтрымкай працэсу прымірэння і ядзернага раззбраення на Карэйскім паўвостраве.*

◆ *На днях у Бейт Джамаль, у 30-ці км на захад ад Іерусаліма (Ізраіль), на каталіцкіх магілках невядомыя зламыснікі знішчылі некалькі пахаванняў і пераламалі шматлікія крыжы. Гэта не першы такі выпадак. За 2 гады на тых самых могілках нешта падобнае адбывалася некалькі разоў. Выканаўцы гэтых актаў вандалізму не выкрыты па сёння. Члены Саюза каталікаў Святой Зямлі скіравалі да дзяржаўных улад заяву, у якой з сумам і болем адзначаюць, што не адчуваюць сябе ў бяспецы і не бачаць ніякіх дзеянняў з боку дзяржавы, якая б даводзіла да грамадства патрэбу павагі да поглядаў і веры іншых людзей.*

◆ *У Іспаніі, дзе пражывае больш за 46 млн чалавек, ва ўмовах крайняй галечы знаходзяцца 4 млн жыхароў. Такую інфармацыю падае нацыянальны "Карытас". У параўнанні з пачаткам эканамічнага крызісу, прыпаўшага на 2007 год, кола найбяднейшых у гэтай іберыйскай краіне ўзрасло на 40%. Кіраўніцтва дабрачыннага таварыства адзначае, што ў Іспаніі жыве агулам 8,6 млн чалавек, якія пакутуюць ад беднасці, і ўказвае, што ў выпадку раптоўнага эканамічнага спаду іх колькасць можа павялічыцца яшчэ на 6 млн чалавек.*

◆ *Першая жанчына-доктар навук па інфарматыцы ў ЗША… была манахіняй! С. Мэры Кеннэт Келлер з Ордэна Сясцёр Міласэрнасці Блаславення Панны Марыі за 20 гадоў да стварэння аперацыйнай сістэмы Microsoft Windows прадугледжвала, што ў бліжэйшы час паўстануць сеткі перадачы лічбавых дадзеных. Манахіня стала адной з галоўных навукоўцаў, якія распрацавалі мову праграмавання BASIC. Дзякуючы яе намаганням камп'ютары сталі даступнымі для грамадства.*

◆ *Каталіцкая арганізацыя "Fundación Ramón Pané" стварыла гульню ў дапоўненай рэальнасці, якая па прынцыпе працы нагадвае "Pokémon Go". Толькі называецца яна "Follow JC Go", і шукаць трэба Хрыста, апосталаў, прарокаў, святых і хрысціян, каб сабраць каманду евангелізацыі. У гульні прапануецца выконваць індывідуальныя або групавыя місіі, мець зносіны з іншымі геймерамі-каталікамі і хадзіць на афлайн-сустрэчы на рэлігійную тэматыку. Спампаваць гульню на свой дэвайс можна бясплатна ў App Store, Google Play.*

*credo.pro; niedziela.pl; aleteia.org*



# АДНОСІНЫ З ПАМЕРЛЫМІ. УДЗЯЧНАСЦЬ ЧЫСТЦОВЫХ ДУШ

● *працяг са с. 1*

З ранніх прац і сведчанняў, якія датычаць чысцца, даведваемся, што азначэнне "святыя чысцовыя душы" ўжывалася дастаткова часта. Гэта было ясным пасылам для вернікаў: паколькі яны святыя, можна прасіць іх аб заступніцтве перад Богам за жывых. Сёння існуюць сумненні адносна гэтай ісціны, бо неаднойчы сутыкаемся з меркаваннем, што памерлыя, якія пакутуюць у чысцы, могуць дапамагчы толькі тады, калі дзякуючы нашым малітвам трапяць у Неба. Тым часам яны ўжо з чысца могуць падтрымліваць нас, а калі дасягнуць Неба, іх заступніцтва, бясспрэчна, будзе яшчэ больш эфектыўным. "Старанна маліся за мяне, – прыспешвала памерлая с. Габрыэла сваю жывую таварышку, – каб я хутка дасягнула мэты сваіх вялікіх жаданняў, якія так доўга мяне турбуюць! Я буду табе больш патрэбная ў Небе, чым тут" ("Рукапіс з чысца").

## У СУПОЛЬНАСЦІ СВЯТЫХ

Святасць – гэта не толькі нябеснае шчасце. Кожны чалавек, які жыве ў стане асвячаючай ласкі, любіць Бога і бліжніх, таксама належыць да супольнасці святых (параўн.: "Лексікон фундаментальнай тэалогіі"). Мы забываемся пра гэта, бо часта проста не ўсведамляем дадзеную праўду.

Святасць палягае на трыванні ў Хрысце і жыцці па Яго прыкладзе. Таму кожны, хто з Езусам пераступіў парог вечнасці, памёр шчасліва. Розум, воля, усе сілы душы з гэтага моманту поўнасцю арыентуюцца на Стварыцеля і падпарадкоўваюцца Яму. Адзіная змена, якая яшчэ можа адбыцца пасля смерці, датычыць сэрца. Калі яно не было поўнасцю ачышчана, памерлы даведваецца аб гэтым у Божым святле і з удзячнасцю прымае дар агня любові Усемагутнага, у якой будзе "даспяваць" да Неба. І хоць не бачыць Пана, адчувае Яго як Таго, па кім балесна тужыць і якога прагне ўсёй сваёй істотай. Чаму тады душа памерлага не можа называцца святой? Калі можна так сказаць пра жывых, што трываюць у Божай ласцы і яшчэ могуць паддацца спакусе і скіравацца да зла, то тым больш можна сказаць пра тых, хто пасля смерці – праз пакуты ў чысцы – імкнецца па ўмацаванай, вернай дарозе да Неба.

У Катэхізісе Каталіцкага Касцёла чытаем, што Касцёл з'яўляецца камуніяй святых, супольнасцю ў Езусе, "які памёр за ўсіх, так, што кожны ўчынак ці цярпенне ў Хрысце і для Хрыста прыносіць плён усім" (ККК, 960–961). Таму можна быць упэўненымі, што спяшаючыся з дапамогай чысцовым душам, мы таксама зможам чэрпаць з іх эфектыўнага заступніцтва за нас (параўн.: ККК, 958).

## НА ЎЗРОЎНІ ВЕРЫ

Гэта адзіны бяспечны абшар, які робіць магчымым кантакт з памерлымі, церпячымі ў чысцы. Толькі застаючыся ў коле веры, мы будзем упэўнены, што не ўваходзім у стасунак са злымі духамі, якія могуць прадстаўляцца душамі нашых памерлых блізкіх.

Трываючы ў навуцы Касцёла, мы ніколі не павінны выклікаць духі памерлых (параўн.: ККК, 2116–2117). Ні ў адным са сведчанняў святых адносна камунікацыі з чысцовымі душамі не сустрэнем такога выпадку, каб хтосьці жадаў прыходу памерлых, хацеў бачыць ці чуць іх. Ініцыятарам такога духоўнага досведу заўсёды з'яўляецца Бог, а не чалавек. Душы памерлых вернікаў знаходзяцца ў руках Пана (параўн.: Мдр 3, 1–9) і таму яны не могуць з'яўляцца па нашым жаданні.

**5 лістапада – Дыяцэзіяльны дзень малітвы за памерлае духавенства**

# "АРХАНЁЛ" ГОРАДА НАД НЁМАНАМ



***У касцёле Адшукання Святога Крыжа ў Гродне знаходзіцца памятная дошка ў гонар кс. інфулата Міхала Арановіча, фундаваная ўдзячнымі вернікамі. Магіла святара на старых каталіцкіх могілках заўсёды задбаная. Там часта можна пачуць малітву людзей, для якіх выключная асоба святара не можа застацца забытай. Наадварот, яна і надалей натхняе сваім прыкладам. 43 гады душпастырскай дзейнасці кс. Міхал прысвяціў Гродзеншчыне. Выбраўшы Бога, святар заставаўся верным Яму і свайму пакліканню ажно да апошняга моманту жыцця.***

## ПАЧАТКІ СВЯТАРСКАГА ШЛЯХУ

Кс. Міхал нарадзіўся ў 1907 годзе ў вёсцы Любешны на Беласточчыне (Польшча). У 1926 годзе паступіў у духоўную семінарыю ў Вільнюсе (Літва). Там жа адначасова вучыўся на тэалагічным факультэце Універсітэта ім. Стэфана Баторыя. Святарскае пасвячэнне прыняў у 1932 годзе з рук аб-па Рамуальда Ялбжыкоўскага.

Першай душпастырскай пляцоўкай кс. Арановіча была Каменка недалёка ад Шчучына. У той час яна налічвала каля 4-ох тысяч вернікаў. Пасля таго, як стан здароўя мясцовага пробашча кс. Мечыслава Савіцкага значна пагоршыўся, кс. Міхал стаў тут вікарыем "каад'ютарам", а затым і пераняў пасаду пробашча.

У 1939 годзе яго мабілізавалі ў армію як капелана 3-га палка шэвалежэраў у Сувалках. Затым ксёндз быў інтэрніраваны ў лагеры ў Літве. У Каменку вярнуўся ў 1941 годзе. Паслугу пробашча мясцовай парафіі выконваў на працягу чарговых 5-ці гадоў.

## ДУШПАСТЫРСТВА Ў ГОРАДЗЕ НАД НЁМАНАМ

У 1948 годзе па прапанове генеральнага вікарыя кс. Антонія Курыловіча кс. Міхал згадзіўся стаць капеланам гродзенскага касцёла Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі (пабрыгіцкі). Аднак праз 2 гады святыня была зачынена. З вялікім смуткам святар перанёс Найсвяцейшы Сакрамант у касцёл Адшукання Святога Крыжа (пабернардынскі), дзе стаў вікарыем.

У 1951 годзе быў арыштаваны і да 1953 года знаходзіўся ў ГУЛАГу ў Кемераўскай вобласці. Затым вярнуўся ў Гродна. На працягу года працаваў з кс. Курыловічам, а пасля яго смерці стаў пробашчам пабернардынскай парафіі.

Гэта былі драматычныя часы для Каталіцкага Касцёла ў Гродне. Кс. Міхал быў адзіным святаром па правым баку Нёмана, а таксама генеральным вікарыем усёй Гродзеншчыны. На другім баку Нёмана ў касцёле Маці Божай Анёльскай (францішканскі) працаваў а. Аркадзь Вальтась. Пасля яго смерці ў 1975 годзе кс. Міхал на працягу некаторага часу быў адзіным святаром у Гродне.

## НЯЗЛОМНЫ АБАРОНЦА ВЕРЫ

Ксёндз дачакаўся перамен і адраджэння Касцёла на тэрыторыі сучаснай Беларусі толькі ў 1988 годзе. У той час улады дазволілі прыбыць на працу ў Гродна кс. Тадэвушу Кандрусевічу, а таксама не забаранілі візіт прымаса Польшчы кардынала Юзафа Глемпа.

Кс. Міхал доўга і ахвярна выконваў святарскую паслугу. У 1979 годзе Святы Айцец Ян Павел ІІ прызначыў яго Ганаровым папскім прэлатам, а затым – інфулатам.

Памёр святар 30 жніўня 1991 года. Пахавальная ўрачыстасць, што адбылася 2 верасня ў пабернардынскім касцёле, сабрала амаль усё духавенства з Беларусі, шмат святароў з Польшчы і Літвы, а таксама тысячы вернікаў, якія прагнулі выразіць вялікаму святару сваю павагу і прызнанне. Сведкі ўзгадваюць, што пахавальная працэсія праходзіла па вуліцах Гродна і такога тлуму на пахаванні горад не бачыў з часоў смерці Элізы Ажэшкі і а. Мельхіёра Фардона.

*Кінга Красіцкая*

Калі на спірытычных сеансах жывыя бачаць кагосьці ці чуюць, гэта несумненна не могуць быць ні памерлыя, якія пакутуюць у чысцы, ні святыя з Неба, але выключна злыя духі, гатовыя прыйсці на кожны людскі заклік. Дэманы могуць нават прыняць аблічча памерлай асобы, толькі б звесці і ашукаць чалавека.

Таму трэба быць асцярожнымі і не эксперыментаваць у кантактах з памерлымі пры дапамозе любых тэхнік. Хрысціянская вера ўказвае правільны напрамак і спосаб адносін да жыцця пасля смерці. Касцёл рэкамендуе жывым, каб ахвяравалі за чыстцовыя душы малітву, пост, міласціну і адпусты. Сцвярджае таксама, што можна прасіць памерлых аб заступніцтве перад Богам у сваіх зямных справах. Неабходна трымацца гэтага, як штурвала, каб не збочыць з правільнага курсу і не разбіцца духоўна аб скалы акультных практык або – у самым лёгкім выпадку – не сесці на мель фальшывых уяўленняў пра вечнасць.

### НАДЗЕЙНАЕ АБУДЖЭННЕ

Хіба самым распаўсюджаным спосабам дапамогі для памерлых, каб аддзячыць жывым за малітву ў іх інтэнцыі, з'яўляецца ранішняе абуджэнне. Яны могуць эфектыўна падняць з ложка нават самых вялікіх сонь. Некалькі гадоў таму адна журналістка падзялілася са мной сваім досведам. З-за вялікага аб'ёму працы яна вяла ненарміраваны лад жыцця. Бывала, што засынала пад раніцу, а прачыналася каля абеду. Аднойчы павінна была адправіцца ў камандзіроўку, а цягнік мела так рана, што мусіла ўстаць а 4-ай гадзіне, каб паспець на вакзал. У яе не было будзільніка, паколькі часта працавала дома, а ў выдавецтва ніколі не ездзіла раніцай, таму перажывала, ці здолее падняцца ў патрэбны час. Раптам прыгадала пачутую некалі гісторыю, што чыстцовыя душы могуць разбудзіць. Памалілася за іх перад тым, як адправіцца спаць. У пэўны момант пачула, што хтосьці кліча яе па імені. Аднак падумала, што гэта сон, і нават не расплюшчыла вочы. Тады адчула, як яе моцна пацягнулі за руку. Падскочыўшы на ногі, паглядзела на гадзіннік. Было 4.00! І хоць мая суразмоўца была вельмі ўдзячна душам за абуджэнне, на выпадак, калі трэба будзе зноў так рана прачынацца, купіла сабе будзільнік.

Падобных гісторый можна апісваць вельмі шмат. Я ведаю людзей, якія давяраюцца толькі "чыстцоваму" абуджэнню. У іх жыцці малітва за памерлых і адчуванне іх апекі з'яўляецца чымсьці такім жа натуральным, як дыханне. У падобным выпадку і абуджэнне становіцца само сабой зразумелым: проста прыходзіць патрэбная гадзіна – і вочы расплюшчваюцца. Аднак абмяжоўваць удзячнасць чыстцовых душ толькі роляй своеасаблівага будзільніка было б банальна і, магчыма, многім здавалася б звычайным інфантылізмам. Таму варта паглядзець на абуджэнне ў іншым, больш глыбокім аспекце.

Чыстцовыя душы могуць адказаць на аказанае ім дабро таксама духоўным абуджэннем. Калі хтосьці слухае сведчанні святых і містыкаў або чытае іх не толькі з цікавасці, але як духоўны справачнік, несумненна, пачынае задумвацца над сваім жыццём, над тым, ці дастаткова пакутуе за грахі, ці правільна прымае рашэнні, ці прабачае, ці клапоціцца пра будучае вечнае жыццё.

Варта тут прывесці чарговы прыклад. Шмат гадоў таму я ездзіла ў розныя парафіі з кніжкамі пра чысцец, каб заахвочваць людзей да малітвы за памерлых. Сярод іншага закранала таксама пытанне неабходнасці клапаціцца аб сваёй вечнасці, каб не цярпець пасля смерці. Пасля св. Імшы, калі распакоўвала літаратуру, да мяне падышла маладая жанчына. Нічога не кажучы, яна працягнула далонь, у якой штосьці трымала. У адказ на гэты жэст я зрабіла тое самае, трымаючы сваю далонь раскрытай. Гледзячы на яе сумны твар, я чакала магчымага дару. Тады жанчына, на здзіўленне, уклала мне ў руку залаты пярсцёнак з нейкім высакародным каменем і пайшла, не сказаўшы ні слова. Я не ведала, што тое значыла, але пасля доўгіх разважанняў падумала, што гэта мог быць жэст сведчання аб абуджэнні асобы. Можа, яе ўзрушыў якісьці прыклад? Можа, прыняла рашэнне разарваць заручыны з кімсьці, хто дзеля яе пакінуў сваю жонку і дзяцей? Можа, зразумела, што няварта рызыкаваць стратай Неба для кароткачасовага зямнога шчасця? Не ведаю і, напэўна, ніколі не даведаюся, але дар гэтай жанчыны я завязла на Ясную Гару як вотум падзякі і папрасіла, каб Маці Божая мела яе ў сваёй асаблівай апецы.

Здараецца таксама, што памерлыя непакояць сваіх блізкіх, даючы аб сабе знаць, каб пабудзіць іх выправіць сваё жыццё. Гэта можа адбывацца праз унутраны голас, які чуваць у сэрцы. Такі досвед мела пэўная жанчына, якая на працягу многіх гадоў не малілася і не прымала святыя сакраманты. Яе маці з жалем глядзела на паводзіны дачкі, молячыся і часта паўтараючы, асаблівым чынам у нядзелю: "Ідзі ў касцёл". Безумоўна, словы маці не знаходзілі водгуку. Калі яна памерла, дачка нібы пад прымусам удзельнічала ў абрадах каталіцкага пахавання, без споведзі і без прыняцця св. Камуніі. Пасля вяртання дадому жанчына прыгадала словы занепакоенай маці: "Ідзі ў касцёл". Каб не думаць аб гэтым, адправілася на шпацыр. Аднак, увайшоўшы ў кватэру, зноў пачула тыя самыя словы. На працягу наступных дзён сітуацыя паўтаралася, як толькі жанчына пераступала парог дома. Думала нават, што мае псіхічную праблему. Не магла ні спаць, ні адпачываць у кватэры. Непакоячая просьба маці заглушалася толькі па-за домам. Нарэшце, у пэўную нядзелю пасля некалькіх дзясяткаў гадоў без Бога жанчына прыступіла да споведзі. Калі вярнулася дадому, ужо не чула голасу маці. Тады зразумела, што гэта не хворая псіхіка, а Божае ўздзеянне. Усемагутны дазволіў памерлай маме такім чынам схіліць дачку пакінуць грэшнае жыццё.

Хоць, можа, рэдка да нас даходзяць сведчанні аб наведваннях, выкліканых суцішненнем з чыстцовымі душамі, іх існуе нямала. Некаторыя апісаны ў кнігах Марыі Сімы "Мае перажыванні з чыстцовымі душамі" і "Вызваліце нас адсюль!"; у публікацыях аб Натузе Эволе "Стыгматычка" і "Боль становіцца радасцю". Акрамя таго, цэлы "Рукапіс з чысцца" з'яўляецца дэманстрацыяй клопату памерлай манахіні аб тым, каб прывесці да святасці сястру-таварышку. Існуе таксама шмат асоб, якія перажылі духоўнае абуджэнне ўжо праз сам факт смерці кагосьці блізкага, нават без нейкіх звышнатуральных падзей.

### ДУШЫ САМІ ПА САБЕ НЕ ДАПАМОГУЦЬ

Сцверджанне, што чыстцовыя душы аддзячваюць жывым, патрабуе істотнага ўдакладнення. Тым, хто аказвае чалавеку дабро, заўсёды з'яўляецца Трыадзіны Бог. Гэта ад Яго паходзяць усе ласкі, між іншым тое, што можам быць у кантакце з асобамі, якія ўжо скончылі сваё зямное пілігрымаванне. Анёлы, святыя і чыстцовыя душы могуць рабіць толькі тое, што адпавядае Божым намерам. Таму, молячыся за чыстцовыя душы і просячы адначасова аб іх умяшальністве, трэба памятаць, што памерлыя проста заступаюцца за нас, а дар заўсёды паходзіць ад міласэрнага Бога. Усемагутны карыстаецца ўсімі створанымі істотамі і часам выконвае чалавечыя просьбы праз памерлых, якія церпяць у чысцы. Здараецца, нават дае тое, аб чым не просяць. Напрыклад, Натуза Эвола прызналася, што на беатыфікацыю а. Піо ў білакацыйнае падарожжа яе ўзялі чыстцовыя душы. Жанчына знаходзілася адначасова ў Паравацi і ў Рыме (параўн.: Л. Рэгола, "Стыгматычка"). Аднак гэта адбылося не па яе просьбе. Ніколі не патрабавала ад Бога ніводнай з харызмаў ці звышнатуральных з'яў, якімі так шчодра была Ім адорана.

Калі чытаем пра падобныя падзеі, паўстае пытанне: як так адбываецца, што чыстцовыя душы, не валодаючы целам, могуць да нас дакранацца, размаўляць з намі, перамяшчаць прадметы, уключаць святло ў кватэры, стукаць ў дзверы і г. д.? Можа, неабавязкова трэба ведаць адказ. І так урэшце павінны будзем пагадзіцца на гэтую таямніцу і толькі частковае пазнанне, паколькі "разважанні смяротных нясмелыя, і рызыкоўныя задумы нашы, бо тленнае цела прыгнятае душу, а земляны шацёр абцяжарвае поўны клопатаў розум. Мы з цяжкасцю разгадваем тое, што на зямлі, і з намаганнямі знаходзім тое, што пад рукамі; а хто ж зможа даследаваць тое, што ў нябёсах?" (Мдр 9, 14–16).

*С. Ганна Чайкоўская WDC*




**Новы Запавет пераклалі на тысячную мову свету**

***Пераклад здзейснілі ў Паўднёвым Судане. Цырымонія блаславлення Новага Запавету на мове народнасці келіко прайшла ў лагеры бежанцаў у Бідзі-Бідзі.***

*Тысяча моў, на якія Новы Запавет перакладзены, – гэта 10-ая частка ад усіх моў свету. Сёння рыхтуецца яшчэ 500 перакладаў. Многія з іх хутка будуць скончаны. Прадставіць Святое Пісанне на ўсіх мовах свету плануецца да 2025 года.*




**У Рыме паставілі 270-метровы "стол салідарнасці"**

***За сталом на Віа дэла Канчыліяцыёнэ, што вядзе да базілікі св. Пятра ў Ватыкане, бясплатную ежу атрымалі 650 патрабуючых. Для іх таксама было прэзентавана вулічнае мастацтва і музычнае прадстаўленне.***

*Акцыю падрыхтаваў італьянскі аддзел Міжнароднага таварыства хрысціянскіх валанцёраў "Focsiv". "Мы арганізавалі «стол салідарнасці», каб паказаць, што Рым здольны прымаць і зацікаўліваць, што можна знайсці агульную мову, абменьвацца традыцыямі і перажываннямі з усімі без выключэння", – паведаміла прадстаўніца "Focsiv".*

*У правядзенні акцыі прынялі ўдзел каля 200 валанцёраў.*




**Божа, блаславі Латвію**

***Некалькі тысяч чалавек розных канфесій прынялі ўдзел у нацыянальнай малітоўнай сустрэчы ў інтэнцыі Бацькаўшчыны, якая прайшла ў Рызе. Ініцыятыва адбылася ў рамках святкавання 100-годдзя незалежнасці Латвіі.***

*Прамоўцы – каталіцкае і пратэстанцкае духавенства – прыгадвалі прысутным пра хрысціянскія карані і пра сучасныя пагрозы, якія з'яўляюцца аднолькава небяспечнымі як для народа ў цэлым, так і для канкрэтнага чалавека. Між іншым, прагучала сцверджанне, што нельга маліцца словамі латвійскага гімна "Божа, блаславі Латвію", калі сэрца закрыта на Евангелле.*

*Падчас сустрэчы таксама адбыўся збор подпісаў пад грамадскай петыцыяй да нядаўна выбранага сейма аб абароне – асаблівым чынам у школьнай праграме – вартасцей сям'і, якая грунтуецца на сужэнстве мужчыны і жанчыны.*

# У ЧАС АТЭІСТЫЧНАЙ НОЧЫ ЁН БЫЎ СВЯТЛОМ ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ



**Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч**

*Кс. інфулат Міхал Арановіч аддана працаваў і ў перыяд росквіту Касцёла на гродзенскай зямлі, і падчас ІІ Сусветнай вайны, а таксама ў самыя цяжкія гады праследавання хрысціянства і ваяўнічага атэізму. На працягу доўгіх дзесяцігоддзяў ён захоўваў веру, хрысціў, вянчаў, рыхтаваў да споведзі і Першай св. Камуніі. Прыкладваў усе намаганні, каб у цяжкія часы каталіцкае жыццё на гэтай зямлі не згасла. Плябанія пабернардынскага касцёла стала цэнтрам Касцёла на Гродзеншчыне, а можа нават шырэй – ва ўсёй Беларусі.*

*Калі фарны касцёл застаўся без святара, кс. Міхал прыходзіў туды і адпраўляў св. Імшу, прамаўляў казанні. Вельмі вялікай трагедыяй стала для яго падарванне позняй восенню 1961 года старэйшай гродзенскай святыні – Фары Вітаўта. Аднак святар, які прайшоў праз турму і паклёпніцтва, у глыбіні сэрца верыў, што Касцёл на Гродзеншчыне не перастане існаваць. Можна зачыніць, разбурыць мураваную святыню, але Касцёл, які складаецца з людзей, застанецца.*

*Для кс. Арановіча было важна, што ён дачакаўся адкрыцця Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне, заснавання Гродзенскай дыяцэзіі і аднаўлення касцёльных структур у Беларусі. Я вельмі добра памятаю дзень уступнага экзамену ў гродзенскую семінарыю. Прыходжу ў плябанію да кс. Міхала, а ён заплаканы. Пытаюся, што здарылася, і чую такі адказ: "Адпраўляю св. Імшу раніцай, угледаюся ў твары вернікаў – я ўсіх іх ведаю. Але раптам адчыняюцца дзверы, і ўваходзяць па-святочнаму апранутыя маладыя людзі. Адзін, другі, трэці... Тады я зразумеў, што гэта тыя, хто мяне заменіць. Гэтыя хлопцы пачулі голас Хрыста і адказалі на Яго заклік. Вось я і плачу з радасці".*

*Вялікай суцехай для кс. Арановіча было вяртанне католікам святыні сясцёр назарэтанак. З нагоды гэтай радаснай падзеі з пабернардынскага ў пабрыгіцкі касцёл вырушыла працэсія. Кс. Міхал з-за стану здароўя не мог перанесці Найсвяцейшы Сакрамант, таму ехаў машынай, трымаючы яго ў руках. Цешыўся, што праз столькі гадоў выратаваны ім калісьці Найсвяцейшы Сакрамант вяртаецца на сваё месца, а касцёл зноў стане пляцоўкай Божага культу.*

*Існуе такое выказванне: "Адзін у полі не воін". Аднак кс. інфулат сваім жыццём даказаў: калі абапірацца на Бога, можна здолець многае. Кс. Міхала, напэўна, можна назваць "арханёлам" горада над Нёманам. На працягу многіх гадоў ён абараняў веру і перадаваў яе маладому пакаленню, нястомна абвяшчаючы праўду Евангелля. У памяці гродзенскіх вернікаў ён застаўся як руплівы душпастыр, які кожнага сустракаў з усмешкай на тварах і заўсёды меў час, каб паразмаўляць.*

*Мы ўдзячны гэтаму ксяндзу за вернасць Хрысту, апеку над Касцёлам і за годны да пераймання прыклад. Без такіх, як ён, не было б сёння нас.*

## Малітва за памерлых святароў

**Езу, Найвышэйшы і Вечны Святар, Ты бясконцай любоўю адорваеш святароў, якія працягваюць на зямлі Тваю справу. Просім, зірні ласкава на тых з іх, што ўжо адышлі з гэтага свету, але яшчэ ў полымі чыстцовага агню адплачваюць доўг Божай справядлівасці. Ты адзін найлепш ведаеш іх нявыказаныя пакуты. Няхай Твая найкаштоўнейшая Кроў, якую праліў падчас Мукі, будзе адплатай за іх віны і паскорыць вызваленне з чысцца. Няхай святыя Анёлы ўвядуць іх душы ў Неба. Амэн.**




### Што такое жалоба і як яе правільна захоўваць?

*Ад людзей старэйшага пакалення мы ведаем пра звычай, што пасля смерці блізкай асобы на працягу года трэба насіць чорнае ўбранне, якое выражае жалобу. У сваю чаргу Касцёл нічога не гаворыць наконт таго, колькі павінна працягвацца жалоба, што можна рабіць падчас яе, а чаго трэба пазбягаць.*

*Калі дарагая нам асоба адыходзіць, прымірыўшыся з Богам і Касцёлам, маем права жыць надзеяй, што раней ці пазней яна трапіць у Неба. Аднак мы ведаем, што, нягледзячы на адпушчаныя грахі, неабходна адпакутаваць за свае злачынствы на зямлі. Калі чалавек не зрабіў гэтага пры жыцці, то ён церпіць у чысцы. Блізкія, якія хваляюцца за душу памерлай асобы, могуць скараціць час яе прабывання ў чысцы праз індывідуальныя малітвы ў яе інтэнцыі, замоўленыя св. Імшы, а таксама праз атрыманне адпусту згодна з умовамі, пастаўленымі Касцёлам.*

*Такім чынам, можна сцвердзіць, што жалоба, якая праяўляецца праз нашэнне адзення чорнага колеру, служыць выключна для сведчання людзям навокал аб нашым болі пасля страты блізкай асобы. Аднак калі як хрысціяне перад смерцю сваяка ці сябра зрабілі ўсё магчымае для яго прымірэння з Богам, а пасля смерці молімся ў інтэнцыі збаўлення гэтай душы, то праз жалобную вопратку толькі дадаткова паказваем нашу скруху.*

*Кс. Віктар Ханько*
***Паводле grodnensis.by***

# НА КАГО ПАКІНУЦЬ ДЗІЦЯ ПАСЛЯ ШКОЛЫ?

**Сёння бацькі шмат працуюць, каб забяспечыць сваім дзецям лепшую будучыню. З-за гэтага ім даводзіцца затрымлівацца да позняга вечара. Далёка не ўсе маюць магчымасць скарыстацца паслугамі гувернанткі, не кожны мае бабулю ці дзядулю, якія жывуць па суседстве. На каго пакінуць малое дзіця пасля ўрокаў, калі абодва бацькі занятыя поўны дзень?**


Святліцы пры парафіях Гродзенскай дыяцэзіі наведвае больш за 1000 дзяцей

### ГРУПЫ ПАДОЎЖАНАГА ДНЯ Ў ШКОЛАХ

Каб вырашыць праблему арганізацыі дзяцей у пазаўрочны час, некаторыя школы прапануюць адкрыццё груп падоўжанага дня (для навучэнцаў малодшых класаў). Прабыванне ў іх бясплатнае, аплачваецца толькі харчаванне. У гэты час школьнікі могуць выконваць хатнія заданні, чытаць, маляваць, кантактаваць паміж сабой. За дзецьмі прыглядае выхавацель. Нярэдка таксама ў групах арганізуюцца розныя экскурсіі, паходы і іншыя мерапрыемствы.

Падобны вопыт карыстаецца папулярнасцю ў розных краінах свету. Дзякуючы такой практыцы бацькі могуць не хвалявацца аб тым, чым занятыя іх дзеці пасля ўрокаў, ці накормленыя яны і дагледжаныя. А час, што можа быць затрачаны ўвечары на карпенне над хатнімі заданнямі, прапануецца выкарыстоўваць для цікавых і карысных сумесных спраў у коле сям'і.

На прыкладзе агульнаадукацыйных школ адкрыты прыватныя групы падоўжанага дня, дзіцячыя цэнтры дадатковай адукацыі. Між іншым, у іх прадугледжана правядзенне заняткаў па інтарэсах: кружкі, секцыі, майстар-класы і інш. Аднак за гэта бацькам давядзецца заплаціць. Месяц наведвання платнай "пазаўрочнай школы" каштуе каля 50 еўра ў Японіі, 200 еўра ў Германіі. У Італіі, дарэчы, гэта сімвалічная плата, якая не перавышае 5 еўра (усе астатнія расходы бярэ на сябе камуна). У Беларусі сярэдні кошт па краіне – каля 180 рублёў.

### СВЯТЛІЦЫ Ў ПАРАФІЯХ

З 2017 года ў Гродзенскай дыяцэзіі рэалізуецца праект "Арганізацыя інтэграцыйных святліц у парафіях". Яго ўвасабляюць у жыццё Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" сумесна з "Карытас" Польшчы і праграмай супрацоўніцтва "Польская дапамога", узгодненай з Міністэрствам замежных спраў Рэспублікі Польшча. "Святліца" (ад пол. "świetlica") азначае "групу падоўжанага дня". Такім чынам, пры парафіях адкрываюцца памяшканні, дзе створаны паўнавартасныя ўмовы для адпачынку і развіцця дзяцей пасля заняткаў у школе. Класы абсталяваны яркай і функцыянальнай мэбляй. Тут маецца разнастайнае тэхнічнае абсталяванне: мультымедыйныя праектары, інтэрактыўныя дошкі, музычныя цэнтры і інш.



На дадзены момант святліцы адкрыты ў 9-ці парафіях дыяцэзіі: у Лідзе, Смаргоні, Ашмянах, Астраўцы, Шчучыне, Вялікай Бераставіцы і Гродне

У святліцах звычайна праводзяцца катэхетычныя і выхаваўчыя заняткі. ***"Дзеці могуць заставацца тут і выконваць хатнія заданні, маляваць, ляпіць з пластыліну. Акрамя гэтага, у святліцах сфарміраваны групы, з якімі педагогі займаюцца замежнай мовай, спевамі, аніматары праводзяць забаўляльныя, інтэрактыўныя гульні,*** – распавядае Крысціна Сенюць, педагог-валанцёр у святліцы пры парафіі св. Міхала Арханёла ў Смаргоні. – ***Любы жадаючы можа прыйсці ў святліцу, бо яе дзверы адкрыты для кожнага. Неадназова дзеці з вуліцы заглядвалі да нас, частаваліся гарбатай, слухалі Божае слова – і заставаліся".***




Святліца адкрыта на працягу цэлага дня: **як правіла, з 09.00 да 21.00 (22.00).** У памяшканні маецца кухня, дзе можна прыгатаваць ежу. Часта для дзяцей рыхтуюць пачастункі ксяндзы і манахіні.

"Карытас" не толькі займаецца адкрыццём такіх святліц у дыяцэзіі, але і прычыняецца да іх утрымання, інакш кажучы, поўным чынам суправаджае іх працу: дапамагае з набыццём канцылярскіх прылад, неабходнага абсталявання, курыруе дзейнасць валанцёраў.

***"Першаснай задачай адкрыцця святліц з'яўляецца інтэграцыя дзяцей – здаровых і з парушэннямі,*** – зазначае Алена Міхайлік, намеснік дырэктара Гродзенскага «Карытас». – ***Некаторыя з іх глухія, маюць праблемы з маўленчым апаратам, перамяшчаюцца на інвалідных калясках. Не ўсе могуць наведваць агульнаадукацыйныя ўстановы, таму вельмі неабходная сацыялізацыя такіх дзяцей: тут яны не адчуваюць сябе адзінокімі, абдзеленымі. У той жа час здаровыя дзеці вучацца чуласці, міласэрнасці, далікатнасці".***

У многіх святліцах наладжана ўзаемадзеянне з дзецьмі з сацыяльна небяспечных сем'яў.

Сярод пераваг святліц пры парафіі – бясплатнае прабыванне, узрост школьнікаў (можа быць і старэйшы), насычаная праграма, праца да позняга вечара. Такім чынам, святліцы з'яўляюцца прыдатнай альтэрнатывай пазаўрочным школам. Тут створаны ўсе належныя для рэкрэацыі, развіцця здольнасцей і інтэграцыі маладых людзей умовы.

*Ангеліна Пакачайла*

# ВРЕМЯ СОЗНАТЕЛЬНОЙ РЕЛИГИОЗНОСТИ МОЛОДОГО ЧЕЛОВЕКА

**Ребенок, начинающий учебу в школе, познает мир природы и удовлетворяет человеческое любопытство. Это также наилучший период для катехизации, задача которой – воспитать у ребенка любовь к Богу и ближнему.**

### ЗАНЯТИЯ ПО РЕЛИГИИ

Преподаватель религии приводит ребенка к принятию конкретных решений, для реализации которых необходима помощь родителей. Разговаривая с детьми на тему веры, отцы и матери помогают им перенести содержание занятий по религии на повседневную практику: недостаточно одной веры без поступков. Помощью служат встречи учителя религии с родителями.

Поскольку ребенок в этом возрасте (6–7 лет) легко и быстро усваивает знания, нужно позаботиться о том, чтобы он знал наизусть и понимал краткий катехизис, основные молитвы и литургические песни. Это является этапом подготовки детей к первой исповеди и св. Причастию.

### ОБРАЗ БОГА

Поскольку мышление ребенка в младшем школьном возрасте носит еще конкретный характер, он переносит черты собственного отца на образ Бога. Хотя известно, что тот складывается также из представлений, связанных с матерью, священником, монахиней, однако фигура отца является самой важной. Христианские психологи заметили, что дети отцов, которые дают плохой пример, имеют негативное представление о Боге и позже не могут Ему полностью довериться.

Около 9-го года жизни исчезает наивный образ Бога и появляется понимание Его как Духа. Под влиянием регулярной катехизации дети представляют себе Бога как любящего Отца и всемогущего Защитника. В возрасте 14–15 лет имеет место такое явление, как персонификация идеи Бога, т.е. понимание Его как Кого-то, кто является Личностью (Создателем, Спасителем). В осознании личности Бога чувства и эмоции соединяются с логическим мышлением, что ведет к зрелой набожности. Молодой человек начинает понимать Творца как Наивысшую Любовь, в которой всё больше убеждается и которой доверяет.




### ЗРЕЛАЯ ВЕРА

В среднем школьном возрасте, т. н. подростковом (11–15 лет), проявляются новые психические способности, среди которых существенными являются абстрактное мышление и дедуктивное размышление. В это время складывается собственное мировоззрение. Это также время совершения личного выбора.

Молодежь критически оценивает религиозность окружающих, чтобы установить личную связь с Христом. Религиозно сформированным является тот молодой человек, который понимает, во что и почему он верит. Зрелость молодежи поддерживают взрослые собственным примером и свидетельством жизни.

Правильное психическое и религиозное развитие молодых людей в этом возрасте должно привести к принятию таинства Миропомазания, когда уже сформирована автономная религиозность, ведущая к зрелой вере.

### МЫСЛЕННАЯ МОЛИТВА

Подростковый возраст – это также время, когда развивается способность к самостоятельной устной и мысленной молитве. Чем больше душа человека способна на дружбу и любовь, тем легче происходит личная встреча с Богом посредством молитвы. Она становится поиском контакта, встречи, разговором, чувством радости, раскаяния, благодарности... Это также способ медитации и созерцания.

Главным источником молитвы может являться Новый Завет, агиография (биография святых) и другие книги. Для развития духовности чрезвычайно ценны разные формы совместной молитвы в приходе, а также участие в молодежных группах.

**Следует добавить, что подростковый возраст также полон опасностей для развития религиозной жизни. Речь идет о вступлении некоторой молодежи в контакты с группами ровесников, которые не всегда воздействуют позитивно. Следует уважать личную жизнь ребенка, но если с ним происходит что-то плохое, надо обязательно это предотвратить.**

*О. Казимир Енджейчак OMI*

## НАВІНЫ



### ДУХОЎНЫЯ СУСТРЭЧЫ СВЯТАРОЎ

Каля сотні святароў, якія служаць у Гродзенскай дыяцэзіі, сабраліся ў будынку Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне на духоўнай сустрэчы. Яе ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Прысутнічаў таксама дапаможны біскуп дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.

У Доме міласэрнасці ў Сапоцкіне прайшла фармацыйная сустрэча для святароў ад 1-го да 8-мі гадоў святарства. Ксяндзы разважалі над асабістай культурай святара, а таксама над удзяленнем сакраманту споведзі вернікам у асабліва цяжкіх сітуацыях жыцця.

### БІСКУПСКІЯ ВІЗІТАЦЫІ



Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч і дапаможны біскуп Юзаф Станеўскі завяршылі кананічную візітацыю ў парафіях дэканата Слонім.

У межах візітацыі ў парафіі св. Міхала Арханёла ў Луконіцы біскуп Аляксандр асвяціў 2 новыя крыжы: адзін устаноўлены каля касцёла, другі – на могілках, што знаходзяцца паблізу.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



Семінарыйны музычны гурт "AVE" выступіў з канцэртам у смаргонскім Цэнтры культуры. На выступленні сабраліся парафіяне, запрошаныя госці і жыхары горада.

Напярэдадні ўспаміну ўсіх памерлых вернікаў навучэнцы ВДС прынялі ўдзел ва ўпарадкаванні старых каталіцкіх могілак горада.

### ДАБРАЧЫННАЕ ТАВАРЫСТВА "КАРЫТАС"




Дзякуючы фінансавай падтрымцы "Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі трывае будаўніцтва Дома для прабывання людзей састарэлага ўзросту і аднаўляецца фасад будынка Дома міласэрнасці ў Сапоцкіне, а таксама праходзіць рэканструкцыя будынка, адведзенага для летняга адпачынку дзяцей у Нецечы (дэканат Ліда). Любы жадаючы можа далучыцца да рэалізацыі праектаў праз ахвяраванне.

### КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



Тэатр імя св. Яна Паўла ІІ і моладзевы гурт "Liberamente" падрыхтавалі ў парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне паэтычна-музычную праграму з нагоды 40-годдзя абрання папы Яна Паўла ІІ на Святы Пасад.

З гэтай жа нагоды ў гродзенскіх касцёлах Найсвяцейшага Адкупіцеля і св. Францішка Ксаверыя адбыліся канцэрты польскага ансамбля "Tekla Klebetnica" ў стылі folk-crossover (спалучэнне традыцыйнага польскага і гуральскага фальклору з элементамі цыганскай і балканскай музыкі, класікі і джазу).

### АДНЫМ РАДКОМ



• Дзеці з парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі разам з пробашчам кс. Янам Гавецкім ушанавалі апекуна парафіі св. Яна Паўла ІІ. • Вернікі парафіі Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса і св. Язафата ў Заневічах (дэканат Вялікая Бераставіца) ушанавалі бл. Цэліну Бажэнцкую. • Першая ў гісторыі інаўгурацыя ў Тэалагічным каледжы імя св. Казіміра прайшла ў рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне. • Адкрыццё навучальнага года на Міждыяцэзіяльных курсах сямейнага жыцця адбылося ў гродзенскім касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля. • Манахіні з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта правялі для сем'яў рэкалекцыі ў кляштары ў Навагрудку. • Моладзь сабралася разам у гродзенскім рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі, каб памаліцца Ружанцам у інтэнцыі маладога пакалення.

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**9 лістапада 1950 г.** – кс. Чэслаў Дабулевіч, *проб. Нача;*
**10 лістапада 1940 г.** – кс. Казімір Лабан, *проб. Цудзенішкі;*
**13 лістапада 1994 г.** – кс. Яцэк Якубчык SAC, *душп. Беняконі;*
**16 лістапада 1953 г.** – кс. Альфонс Чыжэўскі SJ, *душп. Бердаўка;*
**16 лістапада 1999 г.** – кс. Мацей Мацееўскі CR, *проб. Крамяніца;*
**17 лістапада 1990 г.** – кс. Эдуард Жураўскі, *проб. Кемелішкі;*
**18 лістапада 1975 г.** – кс. Мечыслаў Радзішэўскі, *проб. Новы Двор.*

## АНОНСЫ

### ГРОДЗЕНСКАЯ ДЫЯЦЭЗІЯ РЫХТУЕ АЛЬБОМ ПРА ГІСТОРЫЮ ПРЫДАРОЖНЫХ КРЫЖОЎ

**З незапамятных часоў на нашых землях існуе прыгожы звычай ставіць прыдарожныя крыжы. Гэта яскравае сведчанне веры папярэдніх пакаленняў, іх прывязанасці да традыцыі і хрысціянскіх каштоўнасцей.**

Нярэдка ў калектыўнай памяці мясцовых жыхароў клапатліва захоўваюцца і перадаюцца з пакалення ў пакаленне цікавыя і ўзрушальныя гісторыі, звязаныя з асобнымі крыжамі. Кіруючыся жаданнем ўратаваць ад забыцця і распаўсюдзіць у грамадстве веды пра такую важную частку нашай рэлігійнай і культурнай спадчыны, дыяцэзіяльная курыя ў Гродне распачала працу над падрыхтоўкай альбома, прысвечанага гэтай тэме. Зараз трывае збор матэрыялаў, неабходных для рэалізацыі праекта.

*У сувязі з гэтым вернікі Гродзенскай дыяцэзіі запрашаюцца да збору і перадачы ўсякай інфармацыі, якая датычыць крыжоў, што знаходзяцца на тэрыторыі іх парафій. Гэта могуць быць, напрыклад, архіўныя дакументы, успаміны і сведчанні парафіян, сучасныя ці гістарычныя здымкі. Матэрыялы неабходна асабіста дастаўляць у дыяцэзіяльную курыю ў Гродне (можна перадаваць праз сваіх душпастыраў) або дасылаць на электронны адрас* ***grodnensis@gmail.com,*** *пазначыўшы тэму ліста: "Прыдарожныя крыжы".*

### ВОСЕНЬСКІЯ РЭКАЛЕКЦЫІ АДБУДУЦЦА Ў РОСІ

**Трохдзённыя духоўныя практыкаванні будуць праходзіць у рэкалекцыйным цэнтры "Дом міласэрнасці".**

**План рэкалекцый**

**ЛІСТАПАД**

**16–18 лістапада:** рэкалекцыі для сужэнскіх пар з малітвай аб дары патомства, *кс. Чэслаў Паўлюкевіч;*
**23–25 лістапада:** рэкалекцыі аб "Сведчанні" і "Павучанні" з дзённіка Аліцыі Лянчэўскай, *кс. Чэслаў Паўлюкевіч.*

Пачатак рэкалекцый у 18.00. Заканчэнне – у 15.00.

*Для ўдзелу ў духоўных практыкаваннях неабходна абавязковая рэгістрацыя па тэлефоне: (8 029) 886-31-28. Па пытанні запісу просьба тэлефанаваць з панядзелка па пятніцу ў гадзінах: 11.00–12.00, 20.00–21.00.*

### ПАСВЯЧЭННІ ДЫЯКАНАТУ І ПРЭЗБІТЭРАТУ АДБУДУЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Прэзбітэрскае пасвячэнне атрымаюць дк. Раман Вайцяховіч і дк. Эрнэст Мікалайчык. Дыяканскае пасвячэнне атрымае кл. Віталій Валюк. Усе 3-ое з'яўляюцца навучэнцамі Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі.**

Урачыстасць, падчас якой біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч удзеліць пасвячэнні, адбудзецца 17 лістапада ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя. Пачатак св. Імшы ў 12.00.

*Дк. Раман Вайцяховіч паходзіць з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне, дк. Эрнэст Мікалайчык – з парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе, кл. Віталій Валюк – з парафіі Божага Цела ў Крамяніцы (дэканат Ваўкавыск).*

### СВ. ІМША ДЛЯ ПІЛІГРЫМАЎ З БЕЛАРУСІ ПРОЙДЗЕ Ў ВІЛЬНЮСЕ

**16 лістапада ў Вострай Браме адзначаецца ўрачыстасць Маці Божай Міласэрнасці.**

З гэтай нагоды ў літоўскі санктуарый прыбудуць пілігрымы з розных краін, каб памаліцца ля цудатворнага абраза Найсвяцейшай Панны Марыі.

*У межах урачыстасцей у Вострай Браме 17 лістапада будзе цэлебравацца св. Імша для пілігрымаў з Беларусі. Пачатак Эўхарыстыі на беларускай мове ў 15.00.*

### РЭКАЛЕКЦЫІ ЦВЯРОЗАСЦІ АДБУДУЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Духоўныя практыкаванні будуць праходзіць з 30 лістапада па 2 снежня ў рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі (пабрыгіцкі).**

Рэкалекцыі арганізуе душпастырства цвярозасці Гродзенскай дыяцэзіі. Да ўдзелу запрашаюцца ўсе, каго хвалюе праблема алкагалізму і наркаманіі ў Беларусі.

*Запісацца і атрымаць больш падрабязную інфармацыю можнапа тэлефоне: (8 033) 325-57-64, Юрый Гапонік.*

## Каляндар падзей

***5 лістапада***
*Дзень малітвы за памерлых святароў і кансэкраваных асоб.*

***7 лістапада***
*Распачацце Навэнны перад урачыстасцю НПМ Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці.*

***9 лістапада***
*Свята гадавіны асвячэння Латэранскай базілікі, катэдры біскупа Рыма, маці ўсіх каталіцкіх касцёлаў у свеце.*
*Молімся аб патрэбных ласках для Святога Айца Францішка ў кіраванні Паўсюдным Касцёлам.*

***10 лістапада***
*Успамін св. Льва Вялікага, Папы і доктара Касцёла.*

***12 лістапада***
*Успамін св. Язафата, біскупа і мучаніка.*

***16 лістапада***
*Урачыстасць НПМ Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці, галоўнай апякункі дыяцэзіі.*

***17 лістапада***
*Успамін св. Альжбеты Венгерскай.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Лістапад***
*Каб пакліканыя святары і кансэкраваныя асобы вытрывалі пры Хрысце і былі шчаслівыя ў рэалізацыі свайго паклікання.*

## Дзіцячы куточак

# Рэцэпт вечнага жыцця

*Напэўна, Ты, Маленькі Чытач, як і ўсе дарослыя, часам задаваўся пытаннем: як там, у Небе? Гэта ж галоўная мэта і самая прыгожая з апошніх рэчаў чалавека! Апостал Павел толькі ўзмацняе нашу цікаўнасць: “Чаго вока не бачыла, і вуха не чула, і што не ўваходзіла ў чалавечае сэрца, тое Бог падрыхтаваў тым, хто любіць Яго” (1 Кар 2, 9). Гэта вельмі займальная таямніца.*

*Месяц лістапад з’яўляецца часам, каб больш паразважаць над рэцэптам вечнага жыцця. Роздум пачынаецца з урачыстасці Усіх Святых. Мы выходзім насустрач шчаслівым людзям, якія пакінулі жыццё і ўжо спаткаліся з Богам.*

*Успамін усіх памерлых вернікаў традыцыйна вядомы як Дзень задушны. Падчас яго асаблівым чынам молімся за душы памерлых, асабліва за тыя, што яшчэ адбываюць пакуту ў чыстцы. Адсюль і з’явілася назва “задушкі”. Нягледзячы на праўду, што чыстцовыя душы ўжо збаўленыя, яны яшчэ не могуць упоўні паяднацца з Богам. Павінны да канца ачысціцца, каб дасягнуць дасканаласці. Скараціць час прабывання ў чыстцы душам могуць дапамагчы нашы малітвы ў іх інтэнцыі – самі яны нічым сабе ўжо не дапамогуць.*

*Памятаючы пра памерлых, трэба не забывацца пра сябе. Каб радасць нашага жыцця не скончылася на зямлі, трэба добра падрыхтавацца для сустрэчы з Богам праз малітву, добрыя ўчынкі і сумленнае жыццё. У гэтым і заключаецца рэцэпт вечнага жыцця. Пераканацца ў гэтым няхай Табе дапаможа цікавая гісторыя Бруна Фэрэра.*

***Пасля заканчэння зямной вандроўкі адна жанчына адразу ж апынулася ў доўгай працэсіі людзей, якія павольна рухаліся ў накірунку да Вярхоўнага Суддзі. Перамясціўшыся ў сярэдзіну чаргі, яна пачала прыслухоўвацца да слоў Бога. Чула, як Нябесны Айцец гаварыў з кімсьці:***

***– Ты, які дапамагаў Мне, калі трапіў у аварыю на дарозе і завёз Мяне ў бальніцу, можаш увайсці ў Рай.***

***Пасля Ён гаварыў з кімсьці яшчэ:***

***– Ты, што без ніякага прыбытку пазычыў грошы ўдаве, уваходзь, каб атрымаць вечнаю ўзнагароду.***

***А пасля зноў:***

***– Ты, які выканаў бясплатна вельмі складаную аперацыю, дапамагаючы Мне прынесці надзею многім людзям, уваходзь у Маё Валадарства.***

***І гэтак далей…***

***Бедная жанчына вельмі спалохалася, таму што, хоць і напружвалася, усё ж не магла прыгадаць ніякіх асаблівых дасягненняў. Нават прапусціла чаргу, каб мець больш часу і ўзнавіць у памяці падзеі жыцця, аднак нічога важнага не здолела ўспомніць.***

***Усмешлівы, але рашучы анёл не дазволіў ёй зноў прапусціць сваю чаргу. З трапяткім сэрцам і з вялікім страхам жанчына стала перад Богам. І адразу ж убачыла Яго ўсмешку.***

***– Ты, якая прасавала ўсе Мае кашулі, дзяліся Маёй радасцю! – сказаў Бог.***

*Бедная жанчына выконвала простыя, на першы погляд непрыкметныя рэчы, але змагла заслужыць шчасце ў Небе. Таксама і Ты, Маленькі Чытач, можаш атрымаць збаўленне, калі будзеш добра выконваць свае абавязкі, старанна вучыцца, любіць іншых людзей і шчыра маліцца. Асабліва памятай пра тое, каб узносіць малітвы за памерлых. Калісьці, мажліва, і сам будзеш патрабаваць такой дапамогі.*

**Заданне:** ***наведай з бацькамі могілкі, запалі зніч і памаліся за памерлых.***

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Несцеру**

з нагоды Імянін і Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: добрага здароўя, шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, нястомнай апекі Панны Марыі і святога Заступніка. Няхай кожны дзень будзе напоўнены шчасцем і радасцю. Дзякуем за прыклад набожнасці, добрае сэрца і за тое, што Вы з намі.

*Вернікі з в. Вінцукі*

**Паважанаму Ксяндзу Мечыславу Матукевічу**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем шмат Божых ласкаў, няспыннай апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка, шчодрага плёну на ніве Пана, а таксама добразычлівых людзей на жыццёвым шляху. Няхай радасць, здароўе і шчасце заўсёды будуць побач, а ўсё, што не ад Пана, знікне.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Дудаў*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Радзюку**

з нагоды 14-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў прагнем скласці самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Божая міласэрнасць,ззяючая любоўю і верай, заўсёды спадарожнічае Вам на святарскім шляху, Святы Дух удзяляе свае дары, усмешка ніколі не сыходзіць з твару, а Божая радасць спадарожнічае ў кожны дзень святарскай паслугі. Жадаем шмат сіл у пераадольванні людскіх слабасцей, шмат зычлівых сэрцаў побач, гатовых прыйсці на дапамогу, мноства Божых ласкаў і апекі Найсвяцейшай Маці. Будзьце добрым пастырам па прыкладзе Хрыста і дасягніце святасці.

*З хрысціянскім прывітаннем, вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Тадэвушу Крыштопіку**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Будзьце святаром паводле Сэрца Езуса. Будзьце мудрым і святым. За тое, што абвяшчаеце людзям Божую навуку, няхай Хрыстос з любоўю прыгарне Вас да сябе, а мы падтрымаем праз малітву Вашыя рукі. Няхай жыццё будзе згоднае з думкамі і пачуццямі Няйсвяцейшага Сэрца Езуса, а аб астатнім Ён сам паклапоціцца.

*Вернікі з касцёла Божай Міласэрнасці, Свіслач*

**Паважанаму Ксяндзу Леону Ладышу**

з нагоды Імянін жадаем Божага благаслаўлення, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, дароў Святога Духа, усіх неабходных ласкаў ад Хрыста, моцнага здароўя, супакою ў сэрцы, душэўнай раўнавагі і добразычлівых людзей побач. Заўсёды памятаем пра Вас у сваіх малітвах.

*Вернікі з парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў в. Войстам*

**Паважанаму Ксяндзу Леанарду Станкоўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, шчасця, радасці і душэўнага супакою. Няхай Пан Бог заўсёды адорвае Вас сваім бласлаўленнем, моцай і стойкасцю, а таксама пасылае на Вашу дарогу добрых і зычлівых людзей. Жадаем шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа і апекі Найсвяцейшай Маці на кожны дзень душпастырскай паслугі.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Солаў*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Раманоўскаму**

з нагоды Дня нараджэння прагнем скласці сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў, нястомнай апекі Маці Божай, а таксама моцнага здароўя, шмат сіл, стойкасці і радасці ад таго, што ідзеце Божай дарогай да святасці. Няхай Святы Дух асвячае сваім святлом кожны дзень Вашай паслугі, Езус заўсёды будзе Сябрам, а Марыя прытуляе да свайго сэрца. Шчасці Божа!

*Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і вернікі з Радуні*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Антонію Філіпчыку**

з нагоды 30-годдзя святарскай паслугі ў касцёле ў Ваўкавыску складаем сардэчныя пажаданні.

Бог адарыў Вас<br>
мноствам дароў<br>
І вялікім прысвячэннем<br>
для верных,<br>
Даў цярплівасць,<br>
адданасць і любоў –<br>
Усё, што трэба,<br>
Вы маеце, напэўна!<br>
Хай жыццё<br>
напаўняецца шчасцем,<br>
І ў сэрца боль не пранікне.<br>
Вы шчаслівы<br>
заўсёды бывайце,<br>
Стала цешцеся<br>
кожнай хвіліне!

*Удзячныя сем’і Ганісеўскіх і Беленінік*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Несцеру**

з нагоды Імянін і Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, сіл, мудрасці і цярплівасці на святарскім шляху. Няхай міласэрны Езус прытуляе Вас да свайго сэрца, Святы Дух няспынна спасылае шчодрыя дары, а Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае любоўю і апекай.

*Вернікі з капліцы Сураж*

**Паважаны Ксёндз Леон Ладыш!**

Сардэчна віншуем Вас з нагоды Імянін і шчыра жадаем моцнага здароўя, усіх Божых ласкаў і нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці. Шчасці Божа!

*Верніцы з войстамскай парафіі Зося і Марыя*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Дзмітрыю Несцеру**

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным, жыццё – доўгім, сілы – бясконцымі, а радасць – штодзённай. Жадаем заўсёды быць акружаным промнямі Божай міласэрнасці, моцай Святога Духа і апекай Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай Езус валадарыць у Вашым сэрцы і адорвае сваімі ласкамі, а святы Заступнік заўсёды будзе побач. Дзякуем за цудоўнае абвяшчэнне Божага слова і радасную ўсмешку на твары.

*З малітвай, Касцёльны камітэт і парафіяне, Геранёны*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды 17-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай Хрыстос, якога штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, бласлаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінае любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае годна выконваць душпастырскую паслугу і нястомна адорвае сваімі дарамі. Жывіце ў здароўі і радасці, а сэрца няхай заўсёды будзе напоўнена супакоем і любоўю.

*Кола Жывога Ружанца МБ Фацімскай з Навасёлкаў*

**Шаноўнай Спадарыні Крысціне Раманчук, закрыстыянцы касцёла Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне,**

з нагоды Дня нараджэння шчыра жадаю Божага бласлаўлення і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Маці Божая заўсёды Вамі апекуецца, а Анёл-ахоўнік нястомна чувае і вядзе да святасці.

*Ірына Мацкевіч*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Лісоўскаму**

з нагоды 15-годдзя прыбыцця ў нашу парафію складаем сардэчныя словы ўдзячнасці за клопат пра вернікаў і святыню. Жадаем сіл, натхнення Святога Духа, Божых ласкаў, апекі Маці Божай і святога Заступніка. Няхай Ваша адданая служба на карысць Богу і людзям прыносіць багаты плён!

*Вернікі з парафіі Імя НПМ, Вярэйкі*

**Паважаны Айцец Андрэй Зуй!**

Дасылаем Вам шчырыя словы віншаванняў з нагоды Дня нараджэння і надыходзячых Імянін. Жадаем моцнага здароўя, натхнення Святога Духа на кожны дзень душпастырскай паслугі, надзейнай апекі святога Заступніка і ўсіх Божых ласкаў. Няхай кожны дар, які Вы атрымліваеце ад Пана, будзе моцнай падтрымкай на жыццёвым шляху. Няхай спаўняюцца Вашы жаданні, а моц Божага бласлаўлення дапамае ў кожнай справе. Дзякуем за Вашу плённую працу і добрыя справы на карысць нашай парафіі. Помнім Вас, запрашаем у госці і будзем вельмі рады сустрэчы.

*Вернікі з в. Гарадзішча Ваўкалацкай парафіі Віцебскай дыяцэзіі*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Безляповічу**

з нагоды Дня нараджэння шчыра жадаем здароўя, сонечных дзён, зычлівых людзей побач, сіл у нялёгкай святарскай паслузе, шчодрых Божых ласкаў і Хрыстовых дароў: міру, радасці і надзеі. Няхай добры Бог, які паклікаў Вас да святарства, заўсёды дапамагае, а Найсвяцейшая Панна Марыя няспынна клапоціцца аб Вас.

*З малітвай, апостальства “Маргарытка” з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Антонію Філіпчыку**

з нагоды 30-годдзя паслугі ў нашай парафіі складаем сардэчныя пажаданні. Няхай святарскі шлях будзе шчаслівы і бласлаўлёны, Бог, якому даверыліся, да канца жыцця адорвае Вас сваімі ласкамі і моцным здароўем, а Найсвяцейшая Маці штодзённа апекуецца. Жадаем шмат радасных і шчаслівых хвілін, сіл і стойкасці ў нялёгкай і адказнай святарскай паслузе. Дзякуем за Божае слова, якім напаўняеце нашыя сэрцы.

*Касцёльны хор з парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла, Алена Гальчэня; тэл. **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 5599; тыраж 5240; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная